БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

8 лютага 1994 г.

Аўторак

№ 15(13731)

Кошт у розніцу 20 рублёў

Выдаецца з 1921 года


У НУМАРЫ:



*Малюе Віктар ДУБОВІК*




## Кур'ер "ЧЗ"

### Генадзь Лавіцкі: "Усё будзе ў рамках закона"

*Разам з пракуратурай Камітэт дзяржаўнай бяспекі пачаў праводзіць расследаванне па даручэнню, якое даў Старшыня Вярхоўнага Савета Мечыслаў Грыб, ці ёсць у рашэнні рэспубліканскага стачачнага камітэта заклік да насільнага звяржэння ўлады.*

Аб гэтым карэспандэнту БЕЛІНФАРМА 4 лютага сказаў выконваючы абавязкі старшыні КДБ Генадзь Лавіцкі. Ён паведаміў, што следства пакуль знаходзіцца ў пачатковай стадыі, у прыватнасці, вызначаецца, дзе друкуюцца лістоўкі, якія заклікаюць да насільнага звяржэння ўрада і Вярхоўнага Савета, вывучаюцца іншыя акалічнасці.

Генадзь Лавіцкі сказаў таксама, "што любое рашэнне будзе прынята толькі ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь".

БЕЛІНФАРМ.

### Заява апазіцыі

*Апазіцыя Беларускага народнага фронта ў Вярхоўным Савеце Беларусі прыняла заяву "Аб палітычным моманце".*

У ёй, у прыватнасці, гаворыцца: "Так званае аб'яднанне грашовых сістэм, а на самай справе ўключэнне Беларусі ў грашовую сістэму Расіі будзе абазначаць не што іншае, як раззбраенне беларускай эканомікі і беларускай дзяржавы перад больш магутным расійскім капіталам і прадпрымальніцтвам". У заяве падкрэсліваецца, што адзіным рэальным і законным дзеяннем у гэтых абставінах з'яўляецца масавая ўсебеларуская палітычная маніфестацыя з патрабаваннямі адстаўкі ўрада, роспуску нелігітымнага Вярхоўнага Савета і правядзення дэмакратычных выбараў. Аўтары заявы таксама з разуменнем ставяцца да заклiку свабодных прафсаюзаў і страйкавых камітэтаў аб усеагульнай палітычнай забастоўцы.

### "Што стаіць за беларускім варыянтам?.."

*Рэдакцыйны артыкул пад такой назвай надрукавала папулярная ў Літве газета "Летувас рытас".*

"Як ні парадаксальна, С.Шушкевіч быў адкліканы з пасады менавіта тады, калі ён пачаў праводзіць палітыку, якая павінна была задаволіць пракамуністычную большасць беларускага парламента... І зроблена гэта было шляхам абвінавачвання ў карупцыі і разбазарванні дзяржаўных грошай. З такімі абвінавачваннямі лягчэй зрабіць выгляд, быццам палітычных праблем няма, а проста адклікаюць палітыка, які скампраметаваў сябе. Міжволі тут узгадаеш, з чаго пачалася барацьба Ельцына з Хасбулатавым і Руцкім: Руцкі таксама быў абвінавачаны ў махінацыях і пераводзе дзяржаўных грошай у замежныя банкі. Супярэчыць логіцы і арышт у Мінску Ю.Ярмалавічуса і М.Буракявічуса як фактар палітычнага крызісу, з чаго і пачалася хваля адставак дзяржаўных кіраўнікоў Беларусі. Ці не дзіўна, што людзей, якія доўга і паспяхова хаваліся, арыштоўваюць у Мінску менавіта ў дзень, калі туды прыязджае прэзідэнт ЗША?

А можа тут няма нічога дзіўнага? Магчыма, гэта было пачаткам рэалізацыі пагадненняў амерыкана-расійскай сустрэчы ў Маскве на вышэйшым узроўні, вынікі якіх дастаткова ясна выказаў міністр замежных спраў Расіі А.Козыраў? Ён нагадаў пра інтарэсы Расіі ў суседніх дзяржавах і балтыйскіх краінах..."

"...беларускім палітыкам толькі здаецца, што яны прымаюць рашэнні. У сапраўднасці яны ўжо даўно нічога не вырашаюць, а толькі іграюць ролю выканаўцаў..." — робіць вывад газета.

БелаПАН

### Беспрацоўныя ўсіх галін, яднайцеся!

*Новы ўклад жыцця, не доўга думаючы, даў аб сабе знаць і на Віцебшчыне.*

У першую чаргу падняло галаву беспрацоўе, вельмі небяспечная, асабліва ж на фоне інфляцыі, хвароба. Днямі беспрацоўныя вобласці вырашылі стварыць свой саюз. У звароце Віцебскага саюза беспрацоўных гаворыцца: "Галоўная задача — кансалідацыя барацьбы беспрацоўных за неад'емнае права на працу — аснову існавання Чалавека". Разам змагацца лягчэй? Пажывём — пабачым.

Уладзімір МІХНО.

### Чысціня – залог здароўя?

*Тыя сотні тысяч самых розных інфекцыйных захворванняў, рэгіструюцца штогод у нашай рэспубліцы.*

Акрамя найбольш распаўсюджаных — грыпу і вострых рэспіраторных вірусных інфекцый, — у апошнія гады пачасціліся выпадкі заражэнняў вострымі кішэчнымі інфекцыямі, ахвярамі якіх становіцца адначасова вялікая колькасць спажыўцоў няякаснай харчовай прадукцыі. Часам вінаватыя ў гэтым прадпрыемствы, якія парушаюць элементарныя правілы гігіены пры вырабе і рэалізацыі харчпрадуктаў, часам — грамадзяне, што ўжываюць самі ды яшчэ прапануюць гасцям небяспечныя кансервы хатняга прыгатавання.

Так у Мінску сальманелёзам у мінулым 1993 годзе перахварэла 850 чалавек. Гэта, праўда, на 10 працэнтаў менш, чым у 1992 годзе. Але нельга сцвярджаць, што сітуацыя тут поўнасцю кантралюецца. Паменшылася і колькасць выпадкаў захворванняў на дызентэрыю. Чатыры жыхары сталіцы хварэлі на слупняк. Тры з іх, на жаль, памерлі. Пачасціліся, у параўнанні з 1992 годам, захворванні на коклюш, дыфтэрыю.

Сёння, калі так востра адчуваецца недахоп медыкаментаў, якія да таго ж яшчэ і нятанныя, лепш, канешне, не дапусціць распаўсюджвання інфекцыйных хвароб, чым лячыць ад іх. Таму хочацца верыць, што з прыняццем закона Рэспублікі Беларусь аб санітарна-эпідэміялагічнай бяспецы насельніцтва, які прадугледжвае і такі пункт, як поўнае кампенсаванне ўрону, нанесенага здароўю грамадзян у выніку парушэння санітарнага заканадаўства, становішча хоць неяк палепшыцца.

Сяргей ВІШНЕЎСКІ.

### Для гродзенскіх таўстасумаў

*Бюджэт Гродна хутка павялічыцца, дзякуючы першаму ў горадзе казіно. Размясцілася яно ў гасцініцы "Турыст".*

Для наведвальнікаў, якія маюць тоўстыя кашалькі, устаноўлены тры сталы для гульні "Блэк Джэк", стол для "амерыканскай рулеткі" і пяць гульнявых аўтаматаў.

Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.

### Беларуска–амерыканскія цыгарэты?

*Відаць, недалёкі той час, калі і ў Беларусі пачнуць выпускаць цыгарэты, якасць якіх будзе адпавядаць сусветнаму ўзроўню.*

А курцы, зацягваючыся іх дымком, па заслугах змогуць ацаніць пах навінкі. Дапамагчы ім у гэтым узялася амерыканская фірма "Р.Дж.Рэйнальдс Інтэрнэйшнл С.А.". Яго прадстаўнікі пабывалі 2 лютага ў Дзяржаўным камітэце рэспублікі па знешніх эканамічных сувязях і прадставілі свой бізнес-план па ўдасканаленню тэхналогіі выпуску вырабаў на Гродзенскай тытунёвай фабрыцы. У гэту справу заакіянскія бізнесмены вырашылі ўкласці каля 80 мільёнаў даляраў, большая частка якіх пойдзе на закупку і ўстаноўку новага абсталявання.

### Асцярожна: трыхінелёз!

*У Дзяржынскім раёне зафіксавана ўспышка небяспечнага інфекцыйнага захворвання — трыхінелёзу.*

Яшчэ ў снежні мінулага года 16 мясцовых паляўнічых удачна палявалі на дзікіх кабаноў, мяса якіх часцей за ўсё служыць прычынай гэтага захворвання. Аднак санітарную праверку сваіх паляўнічых трафеяў не зрабілі. У выніку на дадзены момант 207 чалавек атрымалі трыхінелёз. З іх 33 шпіталізаваны. Але, на думку галоўнага санітарнага ўрача Дзяржынска Уладзіміра Марыновіча, гэта не канчатковая лічба, таму што мяса хворых жывёлін вывозілася за межы Дзяржынскага раёна і, магчыма, нейкая яго частка ўсё яшчэ захоўваецца ў халадзільніках і склепах нашых суграмадзян, якія нічога не падазраюць.

БЕЛІНФАРМ.

### Не з лейкай і блакнотам, а ...з каларыферам

*Рэдакцыі раённай газеты "Веснік Глыбоччыны" тэрмінова патрабуюцца... валёнкі і цёплыя кажухі.*

Не так даўно журналісты добраахвотна адмовіліся ад паслуг цэнтральнай кацельні, калі даведаліся, што плаціць за гэтае задавальненне давядзецца дзесяць мільёнаў рублёў у месяц. Зараз у "раёнцы" стукаюць не толькі пішучымі машынкамі, але і зубамі і з нецярплівасцю чакаюць лета.

Уладзімір МІХНО.



Беларускі глядач мае магчымасць бліжэй пазнаёміцца з сучасным выяўленчым мастацтвам Нямеччыны. У Нацыянальным музеі Рэспублікі Беларусь адкрылася выстава "Нямецкая графіка 80-х гадоў", наладжаная культурным цэнтрам імя Гётэ.

Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

### Курсы валют на 7 лютага:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 5950(6188) | 6200 | 3430(3567) | 3575 |
| "Бел-бізнесбанк" | 5700 | 6100 | 3330 | 3500 |
| "Прыор" | 5950 | 6150 | 3360 | 3550 |

*(У дужках —курс за безнаяўны разлік)*



*Нялёгкая, але радасная праца ў загадчыцы дзіцячага садка калгаса "Чырвоная зорка" Слонімскага раёна Марыны МІСЦЮКЕВІЧ.*

**Фота Эдуарда Кабяка.**

ПАДЗЕІ ТЫДНЯ

# У парламента зноў канікулы. А ў нас па-ранейшаму цяжкае жыццё

☐ Андрэй ВАСІЛЕВІЧ

*Мінулы тыдзень быў спакайнейшым, чым папярэднія. Вярхоўны Савет прыпыніў кіпучую дзейнасць па выкідванню са службовых крэслаў нелюбімых ім асоб. А зацікаўленыя грамадзяне, як прафесіяналы, так і аматары ад палітыкі, змаглі разжыцца першымі ўражаннямі, што ж за чалавек заняў месца Старшыні Вярхоўнага Савета.*

Здаецца, што Мечыслаў Грыб паставіў перад сабой задачу крыху ўціхамірыць дэпутацкія эмоцыі. Разглядаліся, магчыма, і важныя, але не надзённыя пытанні. У тых эпізодах, дзе Вярхоўны Савет мог бы прыдбаць на будучае грам-другі аўтарытэту, дэпутаты больш думалі аб сваім асабістым будучым, чым аб лёсе парламента ў цэлым.

Бадай, не знойдзецца газеты, якая б упусціла магчымасць крытычна глянуць на прыдуманыя Саўмінам пенсіі за асаблівыя заслугі. У той сумна вядомай пастанове чыноўнікі дбалі пра сябе, а заадно і ўсіх дэпутатаў уключылі ў пералік людзей, што без доказаў маюць права на пенсію за асаблівыя заслугі.

Сціпла прамаўчала большасць дэпутатаў, калі паўстала гэта пытанне рубам. Яно неяк, відаць, цяплей, калі ў перспектыве гайдаецца салодкая грашовая падачка, хоць і незаслужаная.

Паняцце аб высокай маралі для нашых дэпутатаў вельмі важнае. Аб ім лягчэй разважаць тэарэтычна, чым прымяніць канкрэтна ў адносінах да сябе.

І тут Старшыня Вярхоўнага Савета Мечыслаў Грыб не стаў выказвацца рашуча, не падтрымаў дэпутата Івана Сямашку, хірурга з Пружан, які раз-пораз выходзіў да мікрафона, бы закрываў амбразуру, каб паўшчуваць калегаў, што ж мы робім! Стала відавочна, што ў Мечыслава Грыба няма пакуль цвёрдага погляду на тактычны працяг сесіі. Напрыканцы мінулага тыдня ён некалькі разоў мяняў свой падыход, выказаўшыся спачатку за больш доўгі перапынак у рабоце сесіі, потым за яго скарачэнне і ў рэшце рэшт абвясціў, што дакладную дату называць ён не будзе — усіх выклічуць тэлеграмамі.

Зразумела, што на ролі дарадцаў новага Старшыні імкнуцца зараз многія. Відавочна і такая акалічнасць: як бы нештатнымі членамі Прэзідыума Вярхоўнага Савета становяцца старшыні аблвыканкамаў. Гэтыя начальнікі па сваіх звычках, па свайму статусу вельмі блізкія да саўмінаўскіх вярхоў. Улічваючы тое, што Мечыслаў Грыб станоўча ацэньвае дзейнасць урада і Вячаслава Кебіча, можна смела прагназіраваць, што выканаўчая ўлада не будзе мець вялікіх цяжкасцей ва ўзаемаадносінах з Вярхоўным Саветам.

Пасля перапынку сесія возьмецца за цяжкія і вельмі важныя пытанні: аб выбарах, аб прэзідэнцтве, аб структуры ўрада, аб грашова-крэдытнай сістэме. Канікулы, на мой погляд, будуць выкарыстаны для вырашэння арганізацыйных момантаў. Магчыма, зноў усплыве прапанова пра абранне прэзідэнта на сесіі, хаця верагоднасць яго прыняцця мінімальная.

Адзін з магчымых козыраў прэм'ер-міністра — аб'яднанне грашовых сістэм з Расіяй. Апошнім часам аптымістычных звестак стала менш. Вячаслаў Кебіч пачаў гаварыць, што найлепшыя суадносіны абмену безнаяўных грошай будуць 1:3, што Расія патрабуе ў такім жа маштабе абмяняць і наяўныя "зайцы".

А зусім нядаўна Вячаслаў Францавіч красамоўна апавядаў, што ягоныя перамовы прынеслі найлепшы вынік — 1:1

Цяжка сказаць, што будзе, можна толькі без памылак прадбачыць, нічога лепшага ад нашых палітыкаў мы не дачакаемся. Слову свайму яны гаспадары: могуць даць, могуць і забраць назад.

Самая прыкметная мана: вяшчалі, што па распараджэнню Ельцына Чарнамырдзін пабывае ў Мінску да канца студзеня, каб падпісаць канчатковыя дакументы аб грашовых сістэмах. Сёння ж на двары 8 лютага...

Народ пакуль дрэмле. Даядае сала, вывезенае з вёсак, ну а бульбы хопіць да мая... і ўсё-такі ў сакавіку-красавіку, відаць, згодна з правіламі матухны-прыроды, настрой пачне ўздымацца, голас мацнець, захочацца сказаць панам-кіраўнікам нешта салёнае...

На фоне народнай незадаволенасці спрабуе перахапіць ініцыятыву свабодны прафсаюз. На 15 лютага абвешчана палітычная стачка. Цяжка меркаваць, які вынік яна дасць. Лідэр Партыі народнай згоды Генадзь Карпенка, якога доўга і настойліва называлі ў ліку самага верагоднага прэтэндэнта на пасаду першага намесніка Кебіча, палічыў, што гульня вартая таго, каб прыняць у ёй удзел, і далучыўся да ідэі стачкі.

Магчыма, гэта пробны шар, хутчэй за ўсё асноўныя падзеі разгорнуцца пазней, калі да стачкі далучацца і афіцыйныя прафсаюзы — і ўраду прыйдзецца несалодка.

Ацэньваць мяркуемыя структурныя перабудовы ўрада немагчыма. Тое, што ў паўсакрэтным варыянце выносілася на суд некаторых парламенцкіх камісій, аптымізму не выклікае: звычайны касметычны камуфляж. У кулуарах хадзілі чуткі, што рашэнні прэм'ера больш крутыя... Але іх трэба супаставіць з плануемымі патрабаваннямі камісіі Аляксандра Лукашэнкі. Ён поўны рашучасці адправіць у адстаўку тых, хто заплямiў сябе. А спіс той вялікі — ад некалькіх начальнікаў упраўленняў Саўміна да віцэ-прэм'ераў... Такога масавага адыходу з пасад яшчэ не было, ды з непрывабнымі запісамі ў кніжцы.

Чарговая блытаніна з цэнамі на хлеб таксама сведчыць аб слабасці выканаўчай улады. Праўда, Вячаслаў Кебіч паабяцаў пакараць вінаватых. Толькі лепш, каб іх наогул не было.

## Правінцыяльная хроніка

### Дзяржава – чарнобыльцам

*"Радон" — так назвалі санаторый у Дзятлаўскім раёне Гродзенскай вобласці, пабудаваны для чарнобыльцаў у 1993 годзе.*

Увогуле ж на будаўніцтва жылых дамоў і іншых аб'ектаў, узведзеных у мінулым годзе ў рэспубліцы, згодна з дзяржаўнай праграмай па пераадоленню вынікаў чарнобыльскай катастрофы, пайшло больш за 321,5 мільярда рублёў. У эксплуатацыю здадзена 3,2 тысячы жылых дамоў, дашкольныя ўстановы і агульнаадукацыйныя школы на 64 тысячы месцаў. У новым жа годзе, як паведамілі ва ўпраўленні капітальнага будаўніцтва Дзяржкамчарнобыля, на будаўніцтва такіх аб'ектаў для пацярпеўшых ад аварыі на ЧАЭС выдзелена 1,6 трыльёна рублёў, што складае каля 15 працэнтаў усёй расходнай часткі дзяржбюджэту.

А.СЦЯПАНАЎ.

### Бяздомны дом

*нарадзіўся пад Новы год у БЕШАНКОВІЧАХ. Дом народных рамёстваў адразу стаў бомжам.*

Спецыяльнага памяшкання для яго ў райцэнтры не знайшлося, і нованароджанага вырашылі размясціць адразу ў некалькіх сельскіх клубах. Не абзавёўшыся стацыянарным дахам над галавою, Дом рамёстваў на Бешанковіччыне мае затое канкрэтную праграму адраджэння і развіцця беларускай народнай творчасці. А таленту яму не пазычаць.

Падрыхтаваў Уладзімір МІХНО.

## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

"Суперчэннэл" — "Еўраньюс" — "Уорлднэт"

*Дзяжурныя па выпуску: перакладчыкі С.КІРЫЕНКА, Д.ЛІТВІН, рэдактар П.СІМАНАЎ.*

### ПРЫНЦ У РОЛІ МІШЭНІ

*Зноў адбылося нападзенне на наследніка англійскага прастола прынца Чарльза, на гэты раз у час яго наведвання Новай Зеландыі.*

Зрабіў замах на жыццё прынца 58-гадовы югаслаў.

### НОВЫ ПРЭЗІДЭНТ ФІНЛЯНДЫІ

*Фінляндыя, нарэшце, абрала свайго новага прэзідэнта. Ім стаў Марці Ахцісаары.*

Пасля падліку галасоў высветлілася, што ён набраў 53,9 працэнта. Яго галоўны канкурэнт, міністр абароны Рэн, набрала толькі 46,1 працэнта.

### СКАНДАЛ У СВЕЦЕ АЎТАБІЗНЕСУ

*Японская аўтамабільная кампанія "Хонда" засталася толькі з 20 працэнтамі акцый англійскай машынабудаўнічай карпарацыі "Ровер". Апошняя была куплена нядаўна канцэрнам "БМВ" і перастала існаваць як англійская.*

Прадстаўнікі "Хонды" заявілі, што яны былі ашаломлены, даведаўшыся аб набыцці 80 працэнтаў акцый "Ровера" канцэрнам "БМВ". Тым не менш, ужо прапрацоўваюцца варыянты супрацоўніцтва з новым гаспадаром былой англійскай кампаніі.

### ЖЫЦЦЁ... НА СТАТУІ

***37-гадовы архітэктар Арманда Гарсія з Іспаніі, прадаўшы свой дом, пабудаваў 15-метровую жаночую статую, у галаве якой размясціў сваё атэлье. Там, дзе знаходзяцца грудзі, ён размясціў спальню, а на"паверх" вышэй — кухню.***

Такім своеасаблівым чынам ён вырашыў жыллёвую праблему.


(Працяг на 3-й стар.).


ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ

